# ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● кошт 3000 рублёў

10 красавіка 1998 г. пятніца, № 81 (23432)


## ПРЭЗІДЭНТ ЯШЧЭ РАЗ ПАЦВЕРДЗІЎ НЕДАТЫКАЛЬНАСЦЬ АСНОЎНАГА ЗАКОНА КРАІНЫ

**Праблема наладжвання партнёрскіх узаемаадносінаў паміж Беларуссю і міжнароднымі еўрапейскімі арганізацыямі, а таксама асобныя аспекты палітычнай і сацыяльнай сітуацыі ў нашай краіне абмяркоўваліся ў ходзе сустрэчы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі з кіраўніком кансультатыўна-наглядальнай групы АБСЕ ў Беларусі паслом Хансам-Георгам Вікам.**

У гутарцы, якая прайшла 9 красавіка ў рэзідэнцыі беларускага прэзідэнта ў Мінску, прыняў удзел таксама міністр замежных спраў рэспублікі Іван Антановіч.

У самым пачатку сустрэчы, звяртаючыся да прадстаўнікоў СМІ, якія прысутнічалі ў зале для перагавораў, Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў, што шматлікія каментарыі ў прэсе адносна «лёсаноснага» характару гэтых перагавораў, за якімі нібыта адбудзецца змяненне палітычнага курсу краіны, не маюць сур'ёзнай падставы. «Цяпер дзеючая Канстытуцыя недатыкальная, паколькі можа быць зменена толькі самім народам», — заявіў прэзідэнт.

Разам з тым Аляксандр Лукашэнка выказаў сваё імкненне ўважліва прыслухоўвацца да рэкамендацый членаў кансультатыўна-наглядальнай групы АБСЕ і пана Віка ў прыватнасці. «Галоўнае, каб кіраўнік групы АБСЕ захоўваў тую аб'ектыўнасць, якая была ўласціва яму да гэтага часу. Калі не будзе аб'ектыўнасці, у нас не будзе і агульнай мовы», — сказаў кіраўнік дзяржавы.

Пасол Вік у сваю чаргу выказаў упэўненасць, што Беларусь знаходзіцца на шляху да станаўлення дэмакратычнага плюралізму як формы палітычнага ладу дзяржавы. «Я спадзяюся, што ўзаемаадносіны Беларусі з Еўропай будуць паляпшацца», — сказаў ён.

**Вадзім МІЛІЦЫН, БЕЛТА.**

## ПРАВЯДЗЕННЕ ПАРЛАМЕНЦКІХ ВЫБАРАЎ У БЕЛАРУСІ ЗНАХОДЗІЦЦА Ў ВЫКЛЮЧНАЙ КАМПЕТЭНЦЫІ МІНСКА

**Віцэ-спікер Вярхоўнага Савета 13-га склікання Генадзь Карпенка 7 красавіка паведаміў журналістам, што, паводле яго звестак, прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка вырашыў правесці датэрміновыя парламенцкія выбары ўжо ў лістападзе гэтага года.**

Паводле інфармацыі Генадзя Карпенкі, у гутарцы з кіраўніком беларускай дзяржавы Іван Рыбкін перадаў беларускаму прэзідэнту пажаданне Барыса Ельцына аб правядзенні новых парламенцкіх выбараў у Беларусі ў мэтах выхаду з палітычнага тупіка. Прычым згадзіцца на гэта прэзідэнт рэспублікі павінен да наступнага саміта кіраўнікоў дзяржаў Садружнасці.

У сувязі з гэтым прэс-сакратар Барыса Ельцына Сяргей Ястржэмбскі выступіў з заявай. Каменціруючы сцвярджэнні былога віцэ-спікера Вярхоўнага Савета Беларусі Генадзя Карпенкі аб тым, што ў асабістым пасланні прэзідэнта Расіі Барыса Ельцына, якое было перададзена Іванам Рыбкіным беларускаму лідэру 2 красавіка, быццам бы змяшчалася ініцыятыва правядзення новых парламенцкіх выбараў у рэспубліцы ў лістападзе гэтага года, Ястржэмбскі заявіў, што правядзенне выбараў у парламент Беларусі «знаходзіцца ў выключнай кампетэнцыі Мінска».

Сяргей Ястржэмбскі ў заяве адзначыў, што «пытанні ўнутрыпалітычнага жыцця Беларусі ў вусным пасланні не ўзнімаліся».

**БЕЛТА.**

Першыя кветкі вясны — Фота IREX/ProMedia.

## ПРЭЗІДЭНТ ПАТРАБУЕ ЎЗМАЦНІЦЬ КАНТРОЛЬ ЗА СВОЕЧАСОВАСЦЮ ПЛАЦЯЖОЎ У БЮДЖЭТ

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнка 8 красавіка 1998 года прыняў са справаздачай міністра фінансаў М. П. Корбута. Як паведаміла прэс-служба кіраўніка дзяржавы, міністр далажыў прэзідэнту вынікі выканання рэспубліканскага бюджэту за першы квартал гэтага года. А. Р. Лукашэнка даручыў Міністэрству фінансаў прааналізаваць вынікі выканання бюджэту, прыняць дадатковыя меры па павелічэнню яго даходнай часткі і рацыянальнаму выкарыстанню бюджэтных сродкаў. Кіраўнік дзяржавы лічыць неабходным больш строга патрабаваць з прадпрыемстваў, арганізацый і іх кіраўнікоў за забеспячэнне своечасовых плацяжоў у бюджэт дзяржавы, вяртанне пазык, а таксама валютных крэдытаў, атрыманых пад гарантыю ўрада Рэспублікі Беларусь. Прэзідэнт абавязаў узмацніць кантроль за мэтавым і эфектыўным выкарыстаннем сродкаў, што выдзяляюцца з бюджэту.

Кіраўнік дзяржавы адобрыў падыходы Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь да вырашэння пытанняў развіцця рынку каштоўных папер, страхавой справы, упарадкавання латарэйнага і гульнявога бізнесу і запатрабаваў паскорыць рэалізацыю гэтых праектаў.

У ходзе сустрэчы разглядаліся пытанні супрацоўніцтва і ўзаемаадносінаў з міжнароднымі фінансавымі арганізацыямі

**БЕЛТА.**

*ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА*

## ГЕНЕРАЛЬНЫ ПРАКУРОР УСЁ-ТАКІ АДНАВІЎ СПРАВЯДЛІВАСЦЬ

***Гомельская кранаўшчыца Любоў Галалобава атрымае за незаконнае звальненне кампенсацыю ў памеры 85 мільёнаў 957 тысяч рублёў***

Шчыра прызнаюся, недаацаніў я моцы нашай бюракратычнай сістэмы, калі ў красавіку мінулага года паспяшаўся паведаміць чытачам «Звязды» аб перамозе «маленькага чалавека» — кранаўшчыцы Любові Галалобавай над чыноўніцкім апаратам роднага прадпрыемства — адміністрацыяй Гомельскага хімічнага завода. Ды толькі дзе там. Чыноўнікі не збіраліся прызнаваць свае памылкі нават пасля таго, як за кранаўшчыцу заступіўся Генеральны пракурор Беларусі Алег Бажэлка.

Нагадаю сутнасць працоўнага канфлікту. Любоў Галалобава, якая працавала кранаўшчыцай на Гомельскім хімічным заводзе з 1975 года, у 1992 годзе была звольнена з працы. Няўрымслівая кранаўшчыца не пагадзілася з рашэннем адміністрацыі прадпрыемства і пачала барацьбу за сваё аднаўленне на працоўным месцы. Яе справа разглядалася ў судах шмат разоў, але служкі Феміды ўпарта не хацелі прызнаць справядлівасць патрабаванняў кранаўшчыцы прадаставіць ёй работу на ранейшым месцы. Прайшоўшы ўсе судовыя інстанцыі, Любоў Галалобава звярнулася па дапамогу ў пракуратуру Беларусі. Генеральны пракурор краіны Алег Бажэлка асабіста прыняў кранаўшчыцу, уважліва выслухаў і даручыў падначаленым дэталёва разабрацца ў гэтым працоўным канфлікце. Сапраўды, падчас пракурорскай праверкі былі выяўлены факты, якія сведчылі, што Любоў Галалобава была звольнена незаконна. Таму Генеральны пракурор унёс пратэст у судовую калегію па грамадзянскіх справах Вярхоўнага суда. У сваім пратэсце Алег Бажэлка прапанаваў адмяніць ранейшыя судовыя рашэнні па справе кранаўшчыцы Галалобавай і накіраваць справу на новы разгляд. Здавалася, што пасля пратэсту Генеральнага пракурора справядлівасць адразу ж будзе адноўлена. Тым больш, што расставіць усе кропкі над «і» ў звычайным працоўным канфлікце, пагадзіцеся, не так ужо і складана.

Але Любові Галалобавай зноў прыйшлося адчуць усю моц нашай бюракратычнай сістэмы. Адміністрацыя хімзавода ўпарта не хацела прызнаваць свае памылкі і аднаўляць кранаўшчыцу на ранейшым месцы працы, а мясцовыя служкі Феміды таксама не спяшаліся на дапамогу «маленькаму чалавеку». Давялося гомельскай кранаўшчыцы зноў звяртацца па дапамогу да Генеральнага пракурора. І толькі пасля таго як Генеральны пракурор унёс яшчэ адзін пратэст, справа Галалобавай нарэшце зрушылася. Гомельскі абласны суд прызнаў абгрунтаванымі прэтэнзіі кранаўшчыцы да адміністрацыі прадпрыемства і абавязаў кіраўніцтва гомельскага хімзавода выплаціць Любові Галалобавай кампенсацыю ў памеры 85 мільёнаў 957 тысяч рублёў.

Такім чынам, справядлівасць адноўлена. Але засмучае той факт, што нават пасля ўмяшання ў справу Генеральнага пракурора для гэтага спатрэбіўся цэлы год.

Зрэшты, хочацца верыць, што гэтая справа паслужыць добрым урокам для іншых чыноўнікаў, і ў далейшым айчынная бюракратыя і служкі Феміды будуць аператыўней рэагаваць на пратэсты пракуратуры.

Прынамсі, Генеральны пракурор краіны Алег Бажэлка паказаў, што будзе цвёрда адстойваць працоўныя правы грамадзян Беларусі і ўмее даводзіць кожную справу да лагічнага канца. Аб гэтым, між іншым, сведчыць не толькі справа гомельскай кранаўшчыцы. Апошнім часам грамадзяне нашай краіны ўсё часцей звяртаюцца па дапамогу ў органы пракуратуры. Напрыклад, летась колькасць жадаючых трапіць на прыём да супрацоўнікаў пракуратуры павялічылася ў параўнанні з 1996 годам на 5470 чалавек. Усяго летась работнікі органаў пракуратуры прынялі па асабістых справах 47.699 чалавек, разгледзелі 32.438 зваротаў і скаргаў. Прычым амаль кожная пятая людская скарга ў мінулым годзе была прызнана пракурорамі правамернай, і былі прыняты ўсе меры для аднаўлення справядлівасці.

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**

# РОЗГАЛАС

## УРАДЖАЙ ЛІЧАЦЬ ВОСЕННЮ, АХВЯРЫ — УЖО ВЯСНОЙ?

**Як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў Камітэце па інспекцыі працы, за першыя тры месяцы года пры непасрэдным выкананні сваіх прафесійных абавязкаў у краіне загінула 55 і атрымаў цяжкія траўмы 141 чалавек.**

Значная частка ўсіх няшчасных здарэнняў на вытворчасці па-ранейшаму прыпадае на сельскую гаспадарку. Так, за студзень—сакавік на вёсцы адзначана 25 смяротных і 39 выпадкаў цяжкіх калецтваў. Як вынік, ужо зараз можна канстатаваць, што за апошнія пяць гадоў працэнт смяротнага траўматызму ў АПК узрос з 40 да 47, а цяжкага — з 28 да 34 ад агульнай колькасці траўміраваных на вытворчасці ў краіне.

Між тым, зноў-такі шматгадовыя назіранні дазваляюць зрабіць прагноз, што ў самы бліжэйшы час сітуацыя з аховай працы на вёсцы можа значна пагоршыцца. Нашперадзе пасяўная, якая, на жаль, ніколі не абыходзілася без ахвяр. Напрыклад, летась за сакавік—май адбылося больш як 600 няшчасных выпадкаў, у тым ліку 23 — са смяротным і 15 — з цяжкім зыходам. Прычыны трагедый паўтараюцца з году ў год. Гаворка аб эксплуатацыі няспраўных машын і агрэгатаў, адсутнасць агароджаў карданных, цапных, зубчастых і раменных перадач, адсутнасць сродкаў індывідуальнай абароны, парушэнне тэхнікі бяспекі (апошняе перш-наперш датычыцца запуску рухавіка пры ўключанай перадачы). Застаецца балючай для вёскі і праблема працоўнай дысцыпліны: як сведчыць аналіз, амаль палова ад усіх пацярпелых на вытворчасці знаходзіліся ў нецвярозым стане.

**Сяргей ГРЫБ.**

## РАСПАЎСЮДЖВАЛЬНІКІ ХВАРОБ «КАЙФУ» ЧАСАМ ПАЗБЯГАЮЦЬ ПАКАРАННЯ...

**Летась у Беларусі было ўзбуджана 248 крымінальных спраў за распаўсюджванне венерычных захворванняў. Выпадкаў прыцягнення да крымінальнай адказнасці за распаўсюджванне СНІДу ў нашай краіне яшчэ не было.**

Усплёск венерычных захворванняў і СНІДу застаў знянацку не толькі айчынных медыкаў, але і супрацоўнікаў праваахоўных органаў. Нягледзячы на тое, што заканадаўствам Беларусі прадугледжана крымінальная адказнасць за распаўсюджванне гэтых хвароб «кайфу» і кахання, на практыцы адпаведны артыкул Крымінальнага кодэкса прымяняецца не вельмі часта. Напрыклад, летась у Беларусі было ўзбуджана 248 крымінальных спраў за распаўсюджванне венерычных захворванняў. Выпадкаў прыцягнення да крымінальнай адказнасці за распаўсюджванне СНІДу наогул за ўсю гісторыю нашай дзяржавы яшчэ не было.

Разам з тым колькасць гэтых захворванняў у нашай краіне расце шпаркімі тэмпамі. Па стану на 1 студзеня гэтага года ў Беларусі на ўліку было 20.345 хворых на сіфіліс, 10592 хворыя на ганарэю, 1787 ВІЧ-інфіцыраваных. Летась ад СНІДу ў Беларусі памерла 12 чалавек. Словам, як бачна, хваробы «кайфу» і кахання з'яўляюцца яшчэ і своеасаблівымі няўлоўнымі злачынцамі.

Таму гэтая праблема не магла застацца па-за ўвагай і пракуратуры краіны.

Учора адбылася спецыяльная калегія пад старшынствам Генеральнага пракурора Беларусі Алега БАЖЭЛКІ, падчас якой абмяркоўваліся вынікі прымянення пакаранняў за распаўсюджванне венерычных хвароб і СНІДу. На калегіі было адзначана, што праваахоўныя органы некаторых рэгіёнаў краіны яшчэ не зусім добра ўсведамляюць важнасць праблемы барацьбы з распаўсюджваннем венерычных хвароб і СНІДу. А па сутнасці, напрыклад, заражэнне СНІДам, — адзін са спосабаў забойства. Праўда, існуючае заканадаўства таксама не дазваляе ў поўнай меры праваахоўным органам змагацца з распаўсюджвальнікамі «чумы XX стагоддзя» і венерычных хвароб. У прыватнасці, зараз няма законных падстаў у прымусовым парадку праводзіць абследаванне з мэтай выяўлення СНІДу ці венерычных захворванняў у асоб з так званых груп рызыкі: наркаманаў, прастытутак, бамжоў. Бо агульнавядома, што найчасцей носьбітамі ВІЧ-інфекцыі з'яўляюцца аматары «кайфу» — наркаманы, а венерычныя захворванні нярэдка перадаюць «жрыцы кахання» — прастытуткі.

Дарэчы, як прызналася прадстаўніца Міністэрства аховы здароўя, на сённяшні дзень няма нават спісаў людзей, якія ўваходзяць у групу рызыкі. Таму падчас калегіі з вуснаў прадстаўніцы гэтага міністэрства прагучала думка аб мэтазгоднасці легалізацыі прастытуцыі.

Ёсць пэўныя цяжкасці ў праваахоўных органаў пры расследаванні крымінальных спраў па фактах заражэння ВІЧ-інфекцыяй. Напрыклад, у мінулым годзе па факту распаўсюджвання ВІЧ-інфекцыі была ўзбуджана адна крымінальная справа. Аднак нягледзячы на велізарны аб'ём працы — пры расследаванні справы былі дапытаны каля 800 чалавек, — даказаць віну падазраваемага не ўдалося. Справа была спыненая, бо давесці яе да лагічнага канца амаль немагчыма, паколькі сімптомы ВІЧ праяўляюцца звычайна амаль праз 10 гадоў пасля заражэння і дакладна ўстанавіць вінаватага следству вельмі цяжка.

Безумоўна, гэта не азначае, што праваахоўныя органы не будуць змагацца з распаўсюджвальнікамі СНІДу. Наадварот, ужо сам факт правядзення калегіі пракуратуры краіны па такой «далікатнай тэме» сведчыць, што праваахоўныя органы Беларусі надалей будуць яшчэ больш актыўна змагацца са злачынствамі «кайфу» і кахання.

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**

*Спажывец*

## КАНТРАЛЁРАЎ-«РЭКЕЦІРАЎ» ПРОСЯЦЬ БОЛЬШ НЕ ТУРБАВАЦЬ ПАСАЖЫРАЎ

**Сучасны выгляд набылі нядаўна мінскія кантралёры: на іх верхнім адзенні з'явіліся пластыкавыя карткі-бэджы, якія сведчаць аб прыналежнасці «гаспадароў» да сталічнай службы кантролю на гарадскім пасажырскім транспарце.**

Як растлумачыў «Звяздзе» начальнік аддзела кантролю вытворчага ўпраўлення транспарту і сувязі Мінгарвыканкама Міхаіл Малахаў, пластыкавыя карткі прыйшлі на змену ранейшым кантралёрскім жэтонам, і цяпер кожная кантралюючая асоба ў абавязковым парадку павінна насіць гэты знак кантралёра на верхняй частцы свайго адзення на самым бачным месцы.

Новы знак кантралёра з'яўляецца адначасова і пасведчаннем яго ўладальніка, бо змяшчае ў сабе не толькі прозвішча прадстаўніка службы кантролю, але і яго фатаграфію.

Пластыкавая картка выконваецца друкарскім спосабам і мае 8 ступеняў аховы ад падробкі. Акрамя таго, раздзяліць і падрабіць картку не дазваляе таксама яе ламініраванне. Па словах Міхаіла Малахава, у дзейнасці службы кантролю ўжо было некалькі выпадкаў, калі згубленыя кантралёрскія дакументы вярталіся пасажырамі іх уладальнікам: магчыма, не апошнюю ролю ў гэтым адыграла адсутнасць магчымасці выкарыстаць іх у асабістых мэтах.

Мяркуецца, што новаўвядзенне не дазволіць больш працаваць на транспарце «ліпавым» кантралёрам. Аднак пільнасць патрабуецца, у першую чаргу менавіта ад пасажыраў, якім трэба памятаць, што кантралёрскія жэтоны на тэрыторыі сталіцы больш не дзейнічаюць: адзіны сапраўдны знак кантралёра — пластыкавая картка-бэдж!

Аб усіх выпадках парушэння гэтага парадку іх просяць паведамляць у бліжэйшыя аддзяленні міліцыі ці па тэлефоне дыспетчарскай кантрольнай службы 223-49-89.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

*Парламенцкі дзённік*

## ПРЭЗІДЭНЦКАЯ ПАПРАЎКА НЕ СПАДАБАЛАСЯ ЧАСТЦЫ ДЭПУТАТАЎ...

**Папраўкі і дапаўненні, якія сталі прадметам абмеркавання дэпутатаў на вячэрнім пленарным пасяджэнні сесіі Палаты прадстаўнікоў 8 красавіка, датычыліся двух законаў: «Аб міліцыі» і «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь». Падчас абмеркавання апошняга законапраекта ў сераду ў зале пасяджэнняў сесіі гучала беларуская мова: з абгрунтаваннем паправак выступаў міністр адукацыі Васіль СТРАЖАЎ.**

Ён, у прыватнасці, паведаміў, што змяненні і дапаўненні выкліканы некаторымі супярэчнасцямі паміж артыкуламі Закона аб мовах, а таксама неабходнасцю прывядзення часткі яго палажэнняў у адпаведнасць з вынікамі рэферэндуму. Папраўкі, такім чынам, замацоўваюць раўнапраўе ў Беларусі беларускай і рускай моў, забяспечваюць права выбару мовы навучання. Дарэчы, паводле інфармацыі міністра, на 1.09.1990 года, калі Закон аб мовах пачаў дзейнічаць, у рэспубліцы каля 300 тысяч школьнікаў навучаліся на беларускай мове і 1 мільён 150 тысяч — па-руску. Але беларусізацыя і асабліва яе адкат, які наступіў у апошні час, унеслі нязначныя карэктывы ў гэты дысбаланс. Сёння, як сказаў В. Стражаў, на роднай мове атрымліваюць адукацыю больш за паўмільёна школьнікаў, на рускай — мільён. У цэлым па краіне на беларускай мове вучацца толькі 9 працэнтаў першакласнікаў.

Сітуацыя з мовамі відавочная для ўсіх, у тым ліку і для дэпутатаў. Пра гэта сведчыць выступленне старшыні Камісіі па нацыянальнай бяспецы і барацьбе са злачыннасцю Уладзіміра Ягорава, які пакрытыкаваў сваіх калег за тое, што ў парламенце зусім перасталі размаўляць па-беларуску. (Са свайго боку не магу не пакрытыкаваць парламенцкіх стэнаграфістак, якія праявілі фенаменальнае няведанне беларускай мовы. У стэнаграме сесіі многія словы непазнавальна скажоныя, дапушчана шмат памылак, часткі выступлення В. Стражава, зробленага па-беларуску, наогул адсутнічаюць, — замест іх стаіць шматкроп'е. — **Аўтар**.)

9 красавіка парламент ратыфікаваў шэраг міждзяржаўных пагадненняў, сярод якіх неабходна адзначыць Дагавор аб ваенным супрацоўніцтве і Пагадненне аб сумесным забеспячэнні рэгіянальнай бяспекі ў ваеннай галіне, заключаныя паміж Беларуссю і Расіяй.

Дэпутаты таксама адобрылі некалькі новых законапраектаў: «Аб знешняй працоўнай міграцыі», «Аб геадэзічнай і картаграфічнай дзейнасці» і «Аб аб'ектах, якія знаходзяцца толькі ва ўласнасці дзяржавы». Адначасова былі ўнесены карэктывы ў заканадаўчыя акты, якія прадугледжваюць парадак вырашэння калектыўных працоўных спрэчак, рэгламентуюць выкарыстанне аўтарскіх і сумежных правоў, спрыяюць занятасці насельніцтва Беларусі.

Але цалкам спакойным учарашняе пленарнае пасяджэнне таксама назваць нельга, паколькі нечаканай нагодай для вострых спрэчак дэпутатаў стала папраўка ў Закон «Аб сходах, мітынгах, вулічных шэсцях, дэманстрацыях і пікетаванні». У прыватнасці, прэзідэнт не пагадзіўся з тым, што «абмежаванне на правядзенне сходаў, мітынгаў ...і на ўдзел у іх можа ўстанаўлівацца толькі законам», і вярнуў дакумент у парламент, з новай рэдакцыяй гэтага артыкула: «...устанаўліваецца прэзідэнтам або законам». Дэпутат Пятро Жушма, з якім пагадзілася пэўная частка парламентарыяў, зазначыў, што такім чынам парушаецца арт. 23 Канстытуцыі, дзе сцвярджаецца, што абмежаванне правоў і свабод грамадзян дапускаецца толькі ў выпадках, прадугледжаных законам. Дакумент у выніку накіраваны на дапрацоўку.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

## Праблема развіцця навукі — праблема агульнанацыянальнага выжывання, прагрэсу грамадства

**Пра гэтую формулу, ужо аднойчы выкладзеную прэзідэнтам краіны, нагадаў віцэ-прэм'ер беларускага ўрада Уладзімір Замяталін, выступаючы ўчора на сесіі Агульнага сходу Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.**

Безумоўна, грамадству дзеля яго далейшага развіцця патрэбны трывалы, энергетычна сілкуючы фундамент. Віцэ-прэм'ер выказаў меркаванне, што Нацыянальная акадэмія навук краіны ў першую чаргу павінна рэалізоўваць гэтую ўстаноўку кіраўніка дзяржавы. У гэтай формуле — сама логіка жыцця і ўзаемаадносінаў з дзяржавай. У сучасным свеце, толькі апіраючыся на навуку, маючы высокакваліфікаваныя кадры, можна разлічваць на поспех у жорсткай барацьбе за рынкі збыту.

Дзяржава, якая не валодае ўласным навуковым патэнцыялам, не вядзе ўласных навуковых даследаванняў і распрацовак, а разлічвае толькі на перайманне замежных тэхналогій, ніколі не зможа заняць лідзіруючае становішча на сусветным рынку, у вытворчасці якога б там ні было тавару. Такая дзяржава заўсёды будзе адчуваць дыскамфорт ва ўсіх сферах, звязаных з жыццяздольнасцю. Тэхналагічная залежнасць, заўважыў Уладзімір Замяталін, цягне за сабой эканамічную, а следам і палітычную залежнасць. У сённяшнім свеце магчымасці развіцця за кошт прыродных фактараў ужо па-сутнасці вычарпаныя. Фактары эканамічнага росту неабходна ствараць, а гэта пад сілу толькі дзяржавам, якія валодаюць уласным навукова-тэхнічным патэнцыялам. І хаця з-за вядомых прычын, нагадаў віцэ-прэм'ер урада, інвестыцыі ў навуку значна скараціліся, дзяржава сёння робіць усё магчымае для падтрымання навукі. Калі ў 1991 годзе расходы на фінансаванне склалі 0,7 працэнта рэспубліканскага бюджэту, у 1992 годзе — крыху болей 1 працэнта, то ў 1998 годзе ў бюджэце краіны запланавана 2,6 працэнта. На наступны год мяркуецца, што фінансаванне дасягне 4 працэнтаў.

Уладзімір Замяталін, адзначаючы, што задачы ўздыму эканомікі нельга вырашыць без новых і высокіх тэхналогій, падкрэсліў, што Акадэмія навук павінна каардынаваць фундаментальныя даследаванні ў цэлым па краіне. Задача, безумоўна, не з лёгкіх.

**(Заканчэнне на 3-й стар.)**

## РАСІЙСКІ БАНК «ІМПЕРЫЯЛ» МАЕ НАМЕР УКЛАДВАЦЬ ГРОШЫ Ў БЕЛАРУСІ

**Канкрэтныя праекты супрацоўніцтва расійскага банка «Імперыял» з Беларуссю разгледжаны ў час сустрэчы прэм'ер-міністра Сяргея Лінга з прэзідэнтам банка Сяргеем Радзівонавым. Сустрэча адбылася 8 красавіка ў Савеце Міністраў.**

Цяпер банк «Імперыял» займае адно з вядучых месцаў у сферы аперацый з каштоўнымі паперамі, крэдытавання, інвестыцыйных праектаў. Як паведаміў у інтэрв'ю беларускім журналістам С. Радзівонаў, супрацоўніцтва з нашай рэспублікай закранае лясную гаспадарку, цэлюлозна-папяровую прамысловасць, а таксама пагашэнне запазычанасці па лініі Газпрама. «Мы хацелі б укласці грошы ў беларускую эканоміку, бо разумеем, што ў краіне не так усё дрэнна, як падаюць яе непрыяцелі, — падкрэсліў С. Радзівонаў. — Эканоміка Беларусі змагла ў цяжкіх умовах дасягнуць пэўных поспехаў».

Прэзідэнт расійскага банка выказаў задавальненне тым курсам, які праводзяць прэзідэнт і беларускі ўрад. «Мы толькі выйграем ад нашай інтэграцыі і ад адзінай эканамічнай прасторы», — падкрэсліў ён.

**Тэрэза ХАЮЦІНА, БЕЛТА.**

*Грошы*

## БЕЛАРУСКАМУ «ЗАЙЦУ» ВЫНОСЯЦЬ НЕСУЦЯШАЛЬНЫ «ДЫЯГНАЗ». ПАКУЛЬ?

***На рынках СНД курс беларускага рубля каціруецца ад 54 да 68 тысяч за долар***

**Сітуацыя, якая зараз захоўваецца на ўнутраным валютным рынку, трэба меркаваць, поўнасцю знаходзіцца пад кантролем. Ніякіх узрушэнняў і непрадбачных скачкоў. Курс абавязковага продажу долара ўчора на таргах Міжбанкаўскай валютнай біржы склаў крыху больш за 34 тысячы рублёў — 34.070.**

На дадатковых таргах ён быў зафіксаваны на ўзроўні 47 тысяч рублёў. На рынках жа СНД карціна больш разнастайная. Літва ў чацвер афіцыйна каціравала беларускі рубель па 65 тысяч (у сераду, дарэчы, курс складаў 60 тысяч рублёў), Нацыянальны банк Украіны ўстанавіў афіцыйны курс беларускага рубля — 54 тысячы. У Расіі абменны курс некаторыя банкі трымалі на мяжы 65—68 тысяч.

Аднак, нягледзячы на ўнушальныя лічбы, банкаўскія спецыялісты гэтыя велічыні не лічаць вызначальнымі. Напрыклад, па словах дырэктара Цэнтра банкаўскіх даследаванняў пры Асацыяцыі камерцыйных банкаў рэспублікі Міхаіла Кавалёва, у рынкаў СНД вельмі маленькая ёмістасць: зараз на карэспандэнцкіх рахунках нерэзідэнтаў крыху больш за 500 мільярдаў беларускіх рублёў — па цяперашняму курсу гэта эквівалентна крыху больш як 10 мільёнам долараў. Мяняцца паміж сабой рублямі, перататасоўваць іх нерэзідэнты могуць і па больш высокаму курсу. І, хутчэй за ўсё, высокі курс — не вынік нейкіх спекуляцыйных гульняў. Спецыялісты дапускаюць, што значная розніца ў курсах устанаўліваецца па прычыне таго, наколькі выгадна купляць некаторым нерэзідэнтам за беларускія рублі пэўныя беларускія тавары.

Што датычыцца так званага вызначаючага курса, то, на думку экспертаў, ім з'яўляецца курс, па якому ажыццяўляецца найбольшая колькасць здзелак. Як лічыць дырэктар цэнтра банкаўскіх даследаванняў, калі праграма неадкладных мераў па стабілізацыі валютнага рынку будзе рэалізавана так, як намечана, такім курсам стане курс дадатковай сесіі (зараз ён — 47 тысяч рублёў за долар), дзе могуць пачаць расці аб'ёмы — пры ўмове спрашчэння працэдуры і пашырэння доступу банкаў да куплі і продажу валюты. Пагадзіцеся, пры такім раскладзе той факт, што нехта прадасць 10—20 тысяч долараў па курсу ў 65 тысяч рублёў, пагоды не зробіць. На думку таго ж Міхаіла Кавалёва, куды больш важна, каб з 8 мільярдаў долараў гадавой экспартнай выручкі прынамсі большая частка была праканверсавана па нейкаму аднаму курсу. Гэта будзе азначаць, што наведзены пэўны парадак, наступіла адносная стабільнасць. Між іншым, прафесар выказаў меркаванне і аб тым, што калі б афіцыйны курс сёння перавялі на курс дадатковай сесіі, то гэта ніякім чынам не паўплывала б на інфляцыю — на працягу года дадало б усяго 2-3 працэнты.

Вялікія апасенні зараз выказваюцца банкаўскімі спецыялістамі і наконт таго, што абвал курса рубля магчымы пры масіраванай эмісіі на правядзенне сяўбы. У такім разе думаць пра нейкую стабільнасць не выпадае. Аднак у дадзеным выпадку многія разлічваюць на цвярозы падыход у гэтай справе: выказваюцца меркаванні, што будуць выпрацаваны нейкія іншыя механізмы крэдытавання сельскай гаспадаркі. У прыватнасці, магчыма, для гэтай мэты будуць выпушчаны спецыяльныя ДКА. Да таго ж частка грошай ужо мабілізавана ў банкаў (каля трыльёна рублёў) і накіравана сельскай гаспадарцы. А гэта ўжо не эмісійныя грошы, а прыцягнутыя.

І нарэшце, многія эксперты, і ў прыватнасці з цэнтра банкаўскіх даследаванняў, выказваюць упэўненасць у тым, што ў выпадку рэалізацыі ў красавіку ўсіх пунктаў праграмы неадкладных мераў па стабілізацыі, сітуацыя на валютным рынку палепшыцца.

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**

*Транспарт*

## ЧЫГУНКА: ЗАДАЧЫ АДНЫ — УМОВЫ РОЗНЫЯ

**Нядаўна ў расійскай газеце «Гудок» быў апублікаваны даклад міністра шляхоў зносінаў Расійскай Федэрацыі Мікалая Аксёненкі, зроблены ў канцы сакавіка 1998 года на пашыраным пасяджэнні калегіі МШЗ РФ. Аналізуючы гэта выступленне, прыходзіш да высновы, што мэты беларускіх і расійскіх чыгуначнікаў супадаюць — хутка і эфектыўна вырашаць дзяржаўныя задачы па перавозцы грузаў і пасажыраў.**

Напрошваецца і іншая выснова — задачы ў нас адны, а вось шляхі і сродкі іх выканання не зусім аднолькавыя. Розныя ўмовы і розныя адносіны да ролі чыгунак з боку рэгіёнаў. І нельга ж сказаць, што МШЗ РФ знаходзіцца ў цяплічных умовах. У нашых бліжэйшых суседзяў ёсць свае цяжкасці, але выразна прасочваецца дзяржаўны падыход у вырашэнні праблем, што стаяць перад Расійскай чыгункай. Гэта сцвярджэнне не галаслоўнае, таму што пацверджана фактамі і лічбамі. Па-першае, нават ва ўмовах зніжэння аб'ёму перавозак (1997 год МШЗ РФ завяршыла з балансавым прыбыткам у 9,5 трыльёна рублёў) рэнтабельнасць перавозачнай дзейнасці склала 10 працэнтаў. Безумоўна, з боку чыгунак Расіі шмат зроблена па эканоміі эксплуатацыйных расходаў. Эканомія ў 11 мільярдаў дэнамінаваных рублёў — лічба значная, але і на Беларускай чыгунцы ў плане эканоміі затрат зроблена нямала — зэканомлена 420 мільярдаў рублёў, або 3,1 працэнта ад усіх расходаў, а вось рэнтабельнасць не дацягнула да трох працэнтаў. І гэта пры росце аб'ёму на 15,6 працэнта. Прычына — стратнасць унутрырэспубліканскіх грузавых перавозак. Узровень тарыфаў на студзень 1998 года быў у 6,79 раза ніжэй за ўзровень тарыфаў на гэты від перавозак у Расіі. А калі ўлічыць, што ў Расіі ўдзельная вага грузавых перавозак ва ўнутрырэспубліканскіх зносінах складае амаль 95 працэнтаў (у нас — прыкладна адна трэць), то становіцца відавочным: даходы расійскіх чыгунак ад уплыву тарыфаў вышэй у 2,2 раза, чым на Беларускай чыгунцы.

Цяпер на самых высокіх узроўнях вядзецца паленіка, якая датычыць уніфікацыі чыгуначных тарыфаў у Беларусі і Расіі. Паэтапны пераход у гэтым напрамку рабіць проста неабходна. Тым больш, што экспарт тавараў вызначаны Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь Аляксандрам Лукашэнкам адным з галоўных прыярытэтаў эканомікі. Беларускія чыгуначнікі не на словах, а на справе ўнеслі ў 1997 годзе свой уклад у яго павелічэнне. Каля 600 мільярдаў рублёў склалі толькі за адзін год экспартныя скідкі на чыгуначныя тарыфы для беларускіх таваравытворцаў. На жаль, аказваць падтрымку па скідках у такой жа меры і ў 1998 годзе Беларуская чыгунка не можа. Прычынай таму з'яўляюцца вялізныя страты, якія нясе наша магістраль. Мы сталі ўжо стратнымі па перавозках у цэлым, і нам не пад сілу несці цяжар такіх нізкіх тарыфаў у мясцовых грузавых зносінах. Між тым простыя разлікі пацвярджаюць: павелічэнне гэтага тарыфу ў 2,2 раза дало б магчымасць прадаставіць не менш чым 50-працэнтныя скідкі на экспартныя перавозкі без асаблівых страт для эканомікі дарогі.

Беларуская чыгунка ў сваёй эканамічнай і фінансавай дзейнасці заўсёды праводзіла палітыку дысцыплінаванага ведамства, і калі гаварыць пра задачы, пастаўленыя міністрам шляхоў зносінаў перад расійскімі чыгункамі, то хачу сказаць: у нас яны даўно з'яўляюцца паўсядзённай карпатлівай работай. Па-першае, няма і, на наша шчасце, не ўзнікала пытання аб несвоечасовай выплаце заработнай платы; па-другое, не стаіць пытанне і аб пагашэнні даўгоў перад бюджэтам (іх у нас няма). За 1997 год дарога ўнесла ў бюджэт і небюджэтныя фонды 3 трыльёны 310 мільярдаў рублёў. Унесла своечасова, а не з расцяжкай на доўгія месяцы. Расійскія чыгуначнікі атрымалі на чатыры гады адтэрміноўку па разліку з федэральным бюджэтам і на дзесяць гадоў — па выплаце пені і штрафаў.

**(Заканчэнне на 3-й стар.)**



**КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 9 КРАСАВІКА 1998 г. (па стану на 15.00)**

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | Тэлефон для даведак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Мінск (0-17) | | | | | | | |
| Белпрамбудбанк | 45000 | 46000 | 24500 | 25100 | 7000 | 7500 | 233-2110 |
| Мінсккомплексбанк | 45500 | 46000 | 24600 | 25050 | 7400 | 7500 | 228-2055 |
| Пріорбанк | 45000 | 46000 | 24200 | 25000 | 7300 | 7500 | 245-5721 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 34070.00 | | 18691.02 | | 5560.00 | | Курс на 10.04.1998 |
| Цэнтрабанк Расіі | 6.1210 | | 3.3721 | | | | |
| Рынкавы намінальны курс (міжбанкаўскі рынак) | 65000 | 67000 | 35685 | 36793 | 10604 | 10933 | |
| Рэальна абгрунтаваны намінальны курс (прыблізна) | 50500 | 51000 | 28600 | 29000 | 9400 | 9800 | |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваца ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

